Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

Адрэс для карэспандэнцыі і падпіскі: паштовая скрынка № 19.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год — 6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес. — 50 гр.

Год I. Вільня 20 чэрвеня 1931 г. № 14



## ЯШЧЭ АДНА ТРАГЕДЫЯ.

Справа ўзгадаваньня нацыянальна сьведамай беларускай інтэлігенцыі — гэта ў нашых варунках галоўная справа сягоньняшняга дня. Пры нячысьленасьці нашых інтэлігенцкіх сілаў пад Польшчай, пры немагчымасьці нават для іх здабыць сабе адпавядаючую іх ведзе і здольнасьцям працу ў дзяржаўных ды самаўрадавых установах, ужо раней абсаджаных бадай выключна прадстаўнікамі «пануючае нацыі», — вытвараецца такое палажэньне, што ўсім грамадзкім жыцьцём у Заходняй Беларусі кіруе інтэлігенцыя польская, часта навезеная з Галічыны і затым зусім ня ведаючая ані нашага народу, ані тутэйшых адносінаў з усімі іх асаблівасьцямі. Дык нашай інтэлігенцыі прыходзіцца працаваць над падняцьцем нацыянальнае беларускае культуры ў масах, стоючы як быццам па-за арганізаваным дзяржавай грамадзка-дзяржаўным жыцьцём, а гэта робіць заданьне яе асабліва трудным: трэба і сабе на кусок хлеба неяк зарабіць, і знайсьці такія шляхі для сваей грамадзкай працы, каб — стоючы вонках дзяржаўна-грамадзкіх установаў і арганізацыяў — усё-ж мець сувязь з масамі, мець да іх нейкі доступ.

Кожны год, калі некалькі дзесяткоў маладых беларускіх сілаў канчае беларускія гімназіі, паўстае цяжкое і балючае пытаньне: куды-ж ім ісьці вучыцца далей, які фах, якую спэцыяльнасьць ім выбраць, каб у сваей далейшай працы быць незалежным ад зьменных палітычных настрояў, пануючых у дзяржаве, дый адначасна працаць у сваей спэцыяльнасьці, ня кажучы ўжо аб працы агульна-грамадзкай, даваць найбольшую карысьць свайму народу і свайму краю?

Што-ж адказаць нам на яго?

Даць нейкі агульны *позытыўны* адказ на яго — вельмі цяжка: трэба-ж лічыцца з тым, што нельга навязаць чалавеку спэцыяльнасьць, да якое ён ня мае ніякае ахвоты, якая магла-бы стацца непасільным цяжарам для яго на ўсенькае яго жыцьцё. У такіх варунках немагчыма з карысьцяй для свайго народу працаваць, бо кожная праца вымагае пэўнага энтузіязму, захапленьня ёй, а пачуцьцё, што выбраная пад націскам звонку спэцыяльнасьць ёсьць нешта чужое, нейкая абуза, — толькі забівае ўсялякую энэргію і ўсялякі энтузіязм. Дык шмат лягчэй даць на пастаўленае намі пытаньне адказ *нэгатыўны:* чаго ня выбіраць. І тутака адказаць ужо ня так трудна: *ня выбіраць такое спэцыяльнасьці, працу ў якой немагчыма ў родным краю, вымагае выезду па-за межы яго — да чужых, адрывае нашага інтэлігента ад родных гушчаў.*

Незалежна ад тэй *трагедыі будучыны*, якая стаіць перад беларускім інтэлігентам пасьля скончэньня яго адукацыі, перад сёлетнім выпускам моладзі з беларускіх гімназіяў паўстае новая трагедыя — *трагедыя сягоньняшняга дня,* якая пагражае катастрофай усім ye праектам і лятуценьням аб навуцы ў вышэйшай школе наагул. Справа ў тым, што ў урадавых сфэрах паўстала думка непамерна падняць плату за навуку ў вышэйшых школах — да такое вышыні, каб дзяржаўнаму скарбу ня прыходзілася гэтульк грошы дакладаць да ўтрыманьня гэтых школаў, як цяпер. Усё гэта — вынікі гаспадарчага крызысу і аслабленьня заможнасьці народу, ня́здольнага ўжо аплачываць падаткова цяжары у такой меры, як было да крызысу. Калі праект гэты будзе праведзены ў жыцьцё, ня гледзячы на аднадушныя пратэсты ўсяго студэнцтва Польшчы бяз розьніцы нацыянальнасьці і вызнаньня, дык створыцца палажэньне, пры каторым ня толькі новым нашым матурыстам ня прыдзецца пабачыць унівэрсытэцкіх муроў, але і тыя, якія ўжо вучацца ў вышэйшых школах, будуць прымушаны ўцякаць з іх: бо-ж сярод беднага наагул беларускага грамадзянства ня шмат знойдзецца «багатыроў», якія-б маглі плаціць прадугледжаны ўрадавым праекце *1,200 злотых у год за навуку.*

Так да старых трагедыяў беларускага народу далучаецца сягоньня пагроза яшчэ аднае — новае. Ці зьдзейсьніцца яна, ці мо' перад гэтай пагрозай дзецям *усяе беднаты Польшчы* бяз розьніцы яе нацыянальнасьці і вызнаньня грамадзкія сілы Польшчы здолеюць дружна выступіць на абарону права беднаты на вышэйшую адукацыю, — адказ на гэта прынясе нам блізкая ўжо будучына: пачатак новага школьнага году — не за гарамі.

## „ГАНЕБНЫЯ ТЭМПЫ".

*(Як выконваецца „пяцілетка" на прасторы БССР).*

У № 142 менскай «Звезды» з 29-V с. г. пададзены цікаўныя лічбы аб «тэмпах» выкананьня на прасторы Ўсходняй Беларусі аднэй з галінаў слаўнай „пяцілеткі", якая—на страх ці, мо' й са страху ўсіх буржуяў, — так рэклямуецца (пазытыўна, ці негатыўны) прэсай абедзьвюх паўкуляў.

Афіцыяльныя лічбы—(хіба-ж яны ня лгуць!)—сьцьвярджаюць, што ў сярэднім на прасторы Б.С.С.Р. пяцілетні плян — у галіне сяўбы „выкананы" на 25-V с. г. толькі на 27.2 прац., ці — крыху больш, як у чацьвертай частцы „прадбачанае" засеўнае плошчы.

Лічбы для паасобных раёнаў Усх. Беларусі— яшчэ больш цікаўныя.

Так — Магілёўскі раён выканаў засеўную „пяцілетку" толькі на 12.2 прац., Расьнянскі — на 12.8 прац., Суражскі — на 8.5 прац., Межанскі — на 8.7 прац., Дрысенскі — на 7.9 прац., а Чарэйскі — дык аж на 2.9 прац...

Такія-ж больш-менш тэмпы адзначае газэта і для раду іншых раёнаў, як — Нараўлянскі, Карэліцкі, Гарадоцкі, Віцебскі, Высачанскі і Батанхавіцкі.

„Ганебныя тэмпы" — слушна абураецца... сама на сябе радавая ўлада — у сваім афіцыёзе!

## „Палітычная бомба".

*(Да візіты нямецкіх міністраў у Англію).*

Нямеччына пачала вельмі ярка выказываць новую актыўнасьць ды незалежнасьць сваей палітыкі, — як унутранай, таксама і вонкавай.

Першаму дае доказ кангрэс Штальгэльму, другому — так званая „візіта ў Чэкэрс", ці ў гасьціны да англійскага прэм'ера, які цяпер жыве ў гэтым летнім палацы прэм'ераў Англіі.

Гэтая візіта — няменш, як маніфэстацыя Штальгэльму — усхваляваla ўсю Эўропу, асабліва-ж яе — „францускую палову".

Абодва акты маюць цесную сувязь. — Наладжаны якраз напярэдадні падарожы ў Англію кангрэс Штальгэльму меў паказаць — усе тыя небясьпекі, якія-б выклікаў унутры краю непасьпех Лёнданскай візіты нямецкіх міністраў. Нямецкія ваяўнічыя нацыяналісты „рвуцца да ўлады", дык няўдача ўрадавай місіі ў Лёндане змусіла-б — страціўшы тады рэшткі папулярнасьці ў краі і сілы — нямецкі ўрад — уступіць ім уладу... А тады... Што было-б „тады", аб гэтым якраз і павінен быў нашкіцаваць „абраз з музыкай будучыні" кангрэс Штальгэльму...

Няведама, аб чым гутарылі нямецкія міністры з англійскімі. Але ўся эўрапэйская прэса насамперш сьцьвярджае, што такая гутарка іх — у адсутнасьці францускіх іх калегаў — рэч нячуваная дагэтуль у „лёкарнскай Эўропе"!..

Францускія палітыкі, а першы між імі Брыян робяць від, быццам іх „не датычыць ды ня цікавіць, аб чым гутарылі Брюнінг з Мак-Дональдам"... Але ўзапраўднасьці ёсьць неяк інакш.

Вось як піша аб гэтай візіце дый аб уражаньні ад яе ў Парыжу карэспандэнт газ. „Кур. Варш" — на заўтра пасьля візіты. „Ня гледзючы на невялікую адлегласьць Лёндану ад Парыжу, тутака вельмі мала ведаюць аб рэзультатах англійска-нямецкіх гутарак.

Але ў палітычных колах ходзяць глухія весткі, пераказываныя ў найвялікшай таёмнасьці, аб тым, што ў бліжэйшым часе мае выбухнуць нейкая палітычная „бомба" нябывалага яшчэ калібру... „Бомба, якая пераверне дагары нагамі ўвесь лад сучаснай Эўропы".

„Кажуць таксама, што найвялікшыя асколкі гэтай бомбы маюць трапіць акурат у Польшчу".

Ну, можа, да «бомбы» яшчэ фактычна далёка, але характэрна ўжо адно гэтае „чаканьне бомбы" у Парыжу.

У істоце справа, як піша далей той-жа карэспандэнт, пакуль што стаіць прасьцей.

Нямецкія міністры паехалі ў Лёндан, каб растлумачыць найбольш прыхільнаму да Нямеччыны з усіх урадаў вялікіх дзяржаў — ураду Мак-Дональда — фактычны стан рэчаў, як палітычны таксама і эканамічны, у Нямеччыне і прасіць яго падтрымаць дамаганьні з яе боку — у справе зьмяншэньня цяжараў адшкадаваньняў. Бо-ж гэтая задача цяпер для Нямеччыны стаіць на першай чарзе.

Але справа перагляду «пляну Юнга» — вельмі скамплікаваная. Ня толькі Францыя, але-ж і Англія не захоча так лёгка траціць мільярды, якія яны могуць яшчэ дзёрці з Нямецкага народу — на падставе сьпярша прымусовага «трактату», а пасьля «дабравольнай умовы» з Нямеччынай. Трэба або добра пастрашыць крэдытараў Нямеччыне пагрозай яе фінансавага банкруцтва ды палітычнага краху (Гітлерам ды камуністамі!), або — заапэляваць да «шляхотнасьці» Амэрыкі, каб тая зраклася зноў часткі адшкадаваньняў. Але, як кажуць бэрлінскія падгалоскі Вашынгтону ды Нью-Іорку, Амэрыка згодзіцца на гэтыя ахвяры толькі пад варункам шчырага і паважнага разбраеньня Эўропы, якая мае аж два «мураваныя» трактаты сусьветнага «вечнага міру» і ня гледзячы на гэта на выперадкі павялічывае сваі ўзбраеньні, рыхтуючыся ўсьцяж да вайны...

Амэрыка, мо' і «хоча даравань» Эўропе пазычаныя на вайну мільярды, але не на тое, каб гэтыя «ашчаджаныя» такім чынам мільярды былі

(гл. на адвароце).

